

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№497 Чэрвень 2004 г.
Год выданьня 55

## Спэлчэкер беларускай мовы для Microsoft Word




Завяршылася праца па стварэньні кампутарнай праграмы праверкі артаграфіі беларускай мовы, якую вяла група менскіх рупліўцаў пры падтрымцы спн. Алы Орса-Романо і Фундацыі (O.R. Cultural & Educational Foundation), якую яна ўзначальвае. Кампакт-дыск "Літара 1.0" можна практычна бясплатна атрымаць у сядзібе Таварыства беларускай мовы. Праграма ёсьць і ў Інтэрнэце (www. pravapis.tut.by).

Спробы беларусізацыі кампутара рабіліся рознымі групамі й асобамі з большым ці меншым вынікам і раней. У пачатку 1990-х, напрыклад, быў адмыслова створаны калектыў, які працаваў пры Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце. Пасьля рэфэрэндуму 1995 году ягоны "энтузыязм" аціх.

Сябры грамадзкай ініцыятывы, якія гуртаваліся вакол намесьніка старшыні ТБМ Сяргея Кручкова і ажыцьцявілі задуманае, уключылі ў праграму праверкі артаграфіі амаль 200 тысячаў слоў (каля пяці мільёнаў формаўтварэньняў). Выкарыстаны асноўны слоўнікавы масіў, у тым ліку лексыка 20-х – 30-х гадоў мінулага стагодзьдзя, нэалягізмы апошняга часу. Праграма праверкі артаграфіі існуе ў двух варыянтах: "наркамаўкі" (савецкі зрэфармаваны правапіс) і "тарашкевіцы" (клясычны). Паміж імі магчыма канвэртацыя, гэта значыць – напісанае тым правапісам, якім вы лепш валодаеце, лёгка перакладзеце на другі...

На прэзэнтацыі, якая адбылася 14 траўня ў Цэнтры беларускае мовы й культуры Менскага лінгвістычнага ўнівэрсытэту, прамаўлялі ня толькі лінгвісты. Адная з цэнтральных постацяў у камандзе распрацоўшчыкаў spell-checker/а – Хведар Піскуноў, навуковы супрацоўнік Інстытута электронікі Нацыянальнай акадэміі навук. "Папулярызацыя роднай мовы – наш агульны клопат" – такім лёзунгам падштурхваў ён да працы калегаў-кампутаршчыкаў. Праграма праверкі артаграфіі беларускай мовы распрацаваная для выкарыстаньня ў тэкставым рэдактары MS Word стандартнага пакету Microsoft Office 2000 у апэрацыйных сыстэмах Windows 9X, NT, ME, 2000, XP.

*Працяг на бачыне 3*

## Архірэйская Багаслужба ў Гайленд Парку



У нядзелю 30 травеня ў царкве Жыровіцкай Маці Божай у Гайленд Парку, штат Нью-Джэрзі, нававысьвечаны япіскап БАПЦ Уладыка Васіль адслужыў сваю першую ў гэтай прафіі Багаслужбу. Хіратонія Ўладыкі адбылася 20 сакавіка 2004 году ў Тарнопалі на Ўкраіне. Высьвячэньне выканалі на просьбу Мітрапаліта БАПЦ Ізяслава і Рады БАПЦ, мітрапаліт і два япіскапы Ўкраінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Уладыку Васіля віталі ля ўваходу ў царкву Жыровіцкай Маці Божай з хлебам і сольлю настаяцель прыходу а. Вячаслаў і старшыня царкоўнай рады сп. Віктар Дубяга ды з кветкімі ад сяструцтва спн. Ала Дубяга.

Прыхаджане, а разам зь імі й шматлікія гасьці адсьвяткавалі ў гэты дзень разам зь Сёмухаю і парафіяльнае сьвята царквы– Дзень іконы Жыровіцкай Маці Божай. Павялічаным хорам кіраваў і чытаў апостала сп. Якуб Сапяжынскі.

Япіскап Васіль у сваёй пропаведзі адзначыў важнасьць ролі роднай мовы ў жыцьці Царквы ды заклікаў быць вернымі сваім праваслаўным традыцыям.

Адбыўся супольны абед у царкоўнай залі. Уладыку Васіля

*Працяг на бачыне 5*

## КУПАЛЬЛЕ

**Дарагія сябры! Давайце разам адзначым нашую прыгожую традыцыю Купальля.**

**Калі:** 26-27 чэрвеня 2004 году.

**Дзе:** Рэзэрвацыя *Ward Pound Ridge* ў *Cross River, NY.*

**Транспарт:** цягнікам са станцыі *Grand Central* да прыпынку *Katonah*. Гэта прыкладна гадзіна язды ад Магэтану на *Metro North, Harlem Line.*

**Кошт:** **$25** дарослым, **$10** дзецям меншым за 12 гадоў.

Дасылаючы аплату, чэкі выпісвайце на *Mr. & Mrs. Ryzy* з адзнакаю "Купальле". Калі ласка, шліце вашыя замовы разам з формаю, надрукаванаю ніжэй на адрас:
*Piotr & Lena Ryzy*
*20 Old Locust Avenue*
*Cortlandt Manor, NY 10567*

**Кантакты:** **Пётра** і **Алена РЫЖЫЯ**, хатні тэл. **(914) 734 - 8115**, маб. **(914) 522 - 0742**, электронная пошта: *LenaBelarus@aol.com*

**Што будзе:** купальскія песьні й танцы, спартовыя спаборніцтвы й гульні, гатаваньне страваў (прыносьце ежу, грылі там будуць).

Захапіце з сабою спальныя мяшкі, палаткі, ежу, напоі й г. д., а таксама дастаткова фотастужкі, каб хапіла на ўсе дні адпачынку.

Арганізатары забясьпечаць дровы для вогнішчаў і вуглі для грыляў.

Вашае імя: ____________________

Лік дарослых ($25 за кожнага): _____, дзяцей ($10): ____ Усяго дасылаю: $ ________

Ваш тэлефон: ____________________ E-mail адрас: ____________________

Ваш паштовы адрас: ____________________

____________________

Ці трэба Вас забіраць з прыпынку цягніка? ____________ Калі? ____________

Ці хочаце, каб Вам даслалі поштаю мапу з інструкцыяй, як даехаць да парку? ______

# Урачыстасьць у Эўрапарляманце

У дзень уступленьня новых краінаў у Эўрапейскі Зьвяз у Бруксэль Эўрапарлямантам былі запрошаныя на ўрачыстае сьвяткаваньне актывісты беларускай палітычнай эміграцыі Бэльгіі. Гэты фотаздымак мапы Эўропы, якая знаходзіцца ў Эўрапарляманце, дасылаем з спазьненьнем,але каштоўнасьць яго ў тым, што будучыню Беларусі прадстаўнікі Эўрапарляманту бачаць у аб'еднанай Эўропе.




У той дзень шмат людзей з розных краінаў наведала Эўрапарлямант, каб пазнаёміцца з экспазыцыямі краінаў новай Эўропы. Нас уразіла тое, што адзінаю краінаю былога СССР, якая была там прадстаўленая, была Беларусь. Яе рэпрэзэнтавалі буклетамі міжнародных прафсаюзаў на пяці мовах, дзе падрабязна было напісана пра рэпрэсіі рэжыму Лукашэнкі ў адносінах да свабодных прафсаюзаў, перасьлед і арышты актывістаў палітычнай апазыцыі, а асобная старонка буклету была прысьвечаная зьніклым беларускім палітыкам.

Вельмі прыемна было чуць ад дэпутатаў розных краінаў Эўропы, што беларускі народ - моцны народ, што Лукашэнка ня вечны, а будучыня Беларусі - гэта вяртаньне ў сям'ю эўрапейскіх народаў.

*І. ЛАЗАРЧУК*

*Фотаздымак А. ВАСІЛЕЎСКАГА*

# Сустрэча з дарадцам Джона Кэры

У Нью Ёрку 6 траўня адбылася сустрэча з сп. Рэндам Бірсам, галоўным зьнешнепалітычным дарадцам сэнатара і кандыдата ў прэзыдэнты ЗША ад Дэмакратычнай партыі Джона Кэры.

Сустрэча была арганізаваная Сярэднеэўрапейскай Бізнэсовай Асацыяцыяй і Цэнтральнай і Ўсходнеэўрапейскай Кааліцыяй. На сустрэчы былі прысутныя прадстаўнікі этнічных арганізацыяў ЗША. Ад беларускіх арганізацыяў у сустрэчы прынялі ўдзел спн. сп. Вячка Станкевіч, А. Орса-Романо, Віталь Зайка і А. Сільвановіч.

Сп. Рэнд Бірс ад імя сэнатара Кэры прывітаў прысутных і распавеў пра асноўныя канцэпты зьнешнепалітычнай праграмы кандыдата ў прэзыдэнты. Вялікая ўвага была прысьвечаная адносінам з краінамі Ўсходняў Эўропы, а таксама праблеме трактаваньня Расеі. Сп. Бірс выклаў прынцыпы, якіх абяцае прытрымлівацца кандыдат у прэзыдэнты ў выпадку свайго абраньня на пасаду, і прыярытэты, якія ён іягоная каманда бачаць найбольш важнымі. Затым сп. Бірс адказаў на пытаньні прысутных.

Беларускія прадстаўнікі задалі пытаньні пра месца Беларусі як стратэгічнай краіны на Ўсходзе Эўропы ў прадстаўленай зьнешнепалітычнай праграме, а таксама пытаньні адносна слушнасьці правядзеньня дэмакратызацыі Беларусі праз пасярэдніцтва Расеі, і пра неабходнасьць падтрымкі Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі ў Сэнаце ЗША. У адказ было, між іншага, сказана, што становішча ў Беларусі будзе дэтальна і належным чынам разгледжанае, падтрымка дэмакратычным сілам будзе аказвацца непасрэдна, і што Расея ні ў якім разе ня можа разглядацца як гарант чыёйсьці дэмакратыі або як дэмакратычная краіна наагул. Сэнатар Кэры азнаёмлены з зьместам Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі, і ў бліжэйшы час прыме захады адносна гэтага законапраекту.

Пасьля афіцыйнай сустрэчы беларускія прадстаўнікі мелі неафіцыйную гутарку з сп. Бірсам, дзе выклалі сваё бачаньне становішча ў Беларусі й важнасьць падтрымкі свабоды й незалежнасьці Беларусі для захаваньня стабільнасьці ва Ўсходняй Эўропе.

Таксама адбыліся гутаркі з кіраўнікамі Аб'еднанага Балта-Амэрыканскага Камітэту, Цэнтральнай і Ўсходнеэўрапейскай Кааліцыі, прадстаўнікамі польскіх, латыскіх і летувіскіх этнічных арганізацыяў у ЗША, з рэдактарам польскай газэты ў Нью Ёрку "Новы Дзеньнік".

*Віталь ЗАЙКА*

# Прыняцьце ў Чыкага

Жаночыя этнічныя арганізацыі былі ў цэнтры ўвагі ў офісе скарбніка акругі Кук штату Ілінойс Марыі Паппас. Прадстаўнікі ад жаночых арганізацыяў з усяе акругі прыйшлі ў офіс спн. Паппас на прыняцьце. "Жанчыны трымаюць сям'ю разам, а ў дадатак часта яшчэ і працуюць. Сёньня яны дасягаюць таго, чаго іхныя маці ў свой час не маглі - напрыклад, атрымліваюць добрую адукацыю. А заўтра жанчыны змогуць рабіць яшчэ больш." - сказала спн. Паппас. Яна ўручыла ганаровыя дыплёмы прадстаўніцам этнічных жаночых арганізацыяў за падтрымку іхняй культуры, мовы, за дасягненьні ў грамадзкай дзейнасьці.

***На здымку зьлева направа: Пат Міхальскі, памочнік скарбніка акругі Кук; Вера Рамук зь Беларускага Каардынацыйнага Камітэту; скарбнік Марыя Паппас.***



# На сэсіі НАТО

Старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка выступіў 30 траўня з дакладам пра передвыбарчую сытуацыю ў Беларусі на вясновай сэсіі Парляманцкай Асамблеі НАТО, якая адбылася ў сталіцы Славаччыны Браціславе.

В. Вячорка быў запрошаны на сэсію Прэзыдэнтам ПА НАТО амэрыканскім кангрэсмэнам Доўгам Бэрэўтэрам і старшынёю камітэту грамадзкага вымярэньня бясьпекі Аліс Магон, дэпутаткаю брытанскага парляманту як лідэр Партыі БНФ і прадстаўнік кааліцыі "Пяцёрка плюс". Пасьля выступу адбылася дыскусія.

В. Вячорка пазьней паведаміў: "Была выказаная вялікая ўвага і сымпатыя з боку літоўскіх, швэдзкіх, нарвэскіх, украінскіх, эстонскіх, амэрыканскіх дэпутатаў. Мая прапанова вылучыць спэцыяльнага дакладчыка па Беларусі будзе вывучацца. Адзіная непрыемная рэч – рэакцыя расейскіх дэпутатаў, у якіх рэй вёў Жырыноўскі (расейцаў запрашаюць на сэсіі). Яны сьцьвярджалі, што беларусы – тыя-ж самыя расейцы, мова нашая непэрспэктыўная, а беларускія дэмакраты служаць Захаду. Але гэтыя выпадкі толькі ўзмацнілі іхны неканструктыўны імідж."

*Прэс-служба БНФ*

# "Дэклярацыя правоў студэнтаў"

На канфэрэнцыі "Правы студэнтаў. Рэальнасьць і пэрспэктывы", якая адбылася 15-16 траўня, студэнты распрацавалі й зацьвердзілі "Дэклярацыю правоў студэнтаў Беларусі". Канфэрэнцыя адбывалася ў межах кампаніі Згуртаваньня Беларускіх Студэнтаў у падтрымку правоў студэнтаў "Адкрыты студэнцкі форум. Думкі ўслых". У ёй прынялі ўдзел 60 студэнтаў з большасьці беларускіх ВНУ, таксама прысутнічалі студэнты зь Нямеччыны й Украіны. Сябры ЗБС, праваабаронцы, прадстаўнікі нямецкага нацыянальнага студэнцкага зьвязу FZS, украінскага студэнцкага зьвязу "Украінскае студэнцкае брацтва", а таксама шэраговыя студэнты беларускіх ВНУ выступілі з наступнымі дакладамі: "Аналіз парушэньняў правоў студэнтаў у Беларусі за апошнія 2 гады"; "Беларуская дзяржаўная ідэалёгія ў беларускіх ВНУ"; "Ціск дзяржавы на ВНУ на прыкладзе ЭГУ"; "Стан і пэрспэктывы студэнцкіх СМІ ў Беларусі"; "Легальнасьць у абароне правоў студэнтаў у Беларусі"; "Досьвед украінскіх студэнтаў у абароне сваіх правоў"; "Салідарнасьць эўрапэйскіх студэнцкіх арганізацыяў зь беларускімі студэнтамі ў галіне абароны правоў студэнтаў" і іншыя.

Усе ўдзельнікі канфэрэнцыі адзначаюць масавыя парушэньні дзяржаваю правоў студэнтаў у Беларусі. Найбольшае абурэньне выклікае наступнае: татальная ідэалягізацыя навучальнага працэсу, загад Міністэрства Адукацыі №283 ад 01.04.2004 году "Аб удасканаленьні ідэалягічнай працы ў ВНУ", прымусовае размеркаваньне студэнтаў пасьля сканчэньня навучальных установаў, адсутнасьць умоваў для разьвіцьця незалежнага студэнцкага самакіраваньня ў ВНУ. Удзельнікі канфэрэнцыі прынялі заяву адносна шматлікіх парушэньняў правоў студэнтаў.

Настрой удзельнікаў канфэрэнцыі адлюстроўвае таксама і гатоўнасьць да шырокай барацьбы за свае правы. "Дэклярацыя правоў студэнтаў" - гэта дакумэнт, які распрацоўваўся студэнтамі розных беларускіх ВНУ на працягу двух мінулых навучальных гадоў, і адлюстроўвае ён, у першую чаргу, тое, якія правы зараз парушаюцца найбольш. Маючы перад сабою мэту ў выглядзе Дэклярацыі, беларускія студэнты пачынаюць мэтаскіраваную барацьбу за рэалізацыю гэтых правоў.

Кампанія ЗБС "Адкрыты студэнцкі форум. Думкі ўслых" праводзіцца зь верасьня 2002 году - два навучальныя гады. У межах кампаніі ЗБС праводзіў у буйных гарадох краіны форумы па правах студэнтаў. Студэнты абмяркоўвалі мэханізмы абароны правоў студэнтаў, дыскутавалі, якімі мусяць быць правы беларускіх студэнтаў. І такім чынам выпрацоўвалі прапановы ў "Дэклярацыю правоў студэнтаў". 28 красавіка ў межах праекту ЗБС правёў у Менску бясплатны студэнцкі рок-канцэрт "ROCK'by".

## Даведка

*Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў (ЗБС) - нацыянальная студэнцкая арганізацыя. У 1992 годзе была зарэгістраваная ў Міністэрстве Юстыцыі (МЮ) РБ як "Рэспубліканскае маладзёжнае грамадскае аб'яднанне "Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў". 03.12.2001 г. рашэньнем Вярхоўнага суду РБ ЗБС пазбаўлены рэгістрацыі за актыўнае правядзеньне кампаніяў па сацыяльных праблемах студэнтаў (размеркаваньне, малыя стыпэндыі, старыя падручнікі, недахоп інтэрнатаў ды інш.) і мабілізацыйныя кампаніі. Суд не зьвярнуў увагу на адсутнасьць юрыдычна абгрунтаваных аргумантаў з боку МЮ, заявы больш за 30 эўрапэйскіх студэнцкіх і праваабарончых арганізацыяў. Ліст Міжнароднай Лігі правоў чалавека да А. Лукашэнка з просьбай патлумачыць незаконныя дзеяньні ў дачыненьні да ЗБС застаўся без адказу. Урад Беларусі праігнараваў рэзалюцыю ESIB (Эўрапэйскія нацыянальныя зьвязы, прастаўляе больш за 10 мільёнаў студэнтаў з 37 эўрапэйскіх краінаў) ад 18.05.2003г аб аднаўленьні рэгістрацыі ЗБС.*

# Беларусь за месяц

## У Беларусі галадаюць

Харчовая і сельскагаспадарчая арганізацыя ААН (FAO) падрыхтавала даклад, што тычыцца праблемаў харчаваньня насельніцтва Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Вынікі — несуцяшальныя. Напрыклад, у Харватыі, якая плянуе ў 2007 годзе далучыцца да Эўразьвязу, галадае сёньня 12 адсоткаў жыхароў. З краінаў, што 1 траўня ўступілі ў Эўразьвяз, найгоршае становішча ў Славаччыне і Латвіі. Тут галадае 5—6% агульнае колькасьці насельніцтва. У Чэхіі й Вугоршчыне — 2%, у Польшчы — 1%. На думку экспэртаў FAO, галоўная прычына недаяданьня — нізкія заробкі й пэнсіі.

Але найгоршае становішча ў краінах СНД. У Армэніі й Таджыкістане непаўнацэнна харчуюцца звыш 40% насельніцтва, за імі ідуць Азэрбайджан, Грузія, Казахстан, Узбэкістан і Кырзызстан — тут штодзённа недаядаюць да 35% насельніцтва.

У Беларусі, Туркмэністане, Украіне, Малдове агульная колькасьць людзей, што пакутуюць ад недахопу харчаваньня, складае 20%. Супрацоўнікі FAO зазначаюць, што да нізкіх заробкаў і пэнсіяў у краінах СНД дадаецца яшчэ праблема афіцыйнага і скрытага беспрацоўя.

Дарэчы, пра пэнсіі. У траўні сярэдняя месячная пэнсія ў Беларусі складала 133 тысячы рублёў (амаль $62, ці 52 эўра).

## Прээнтацыя кнігі Быкава

20 траўня ў менскім Доме літаратара прайшла прээнтацыя кнігі "Быкаў на Свабодзе". Яна, сярод іншага, была прымеркаваная і да 50-х угодкаў Беларускае службы "Радыё Свабода".

На вечарыне выступілі старшыня Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Алесь Пашкевіч, амбасадар ЗША ў Беларусі Джордж Крол, паэты й грамадзкія дзеячы Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Лявон Баршчэўскі. Дырэктар Беларускай службы Радыё Свабоды Аляксандар Лукашук у сваім выступе зазначыў, што "для радыё было за шчасьце мець такога слухача, і шчасьце працаваць у этэры, калі цябе слухае Васіль Быкаў".

## Беларускага ліцэю ня будзе

Калектыў Беларускага гуманітарнага ліцэю прыняў рашэньне не рэгістраваць гуманітарную ўстанову. Да гэтага была зробленая спроба зарэгістраваць менскае грамадзкае аб'яднаньне "Беларуская гуманітарная адукацыя — XXI" у рамках якога і працаваў-бы ліцэй, аднак гарадзкія ўлады адмовілі ў рэгістрацыі аб'яднаньня. Такім чынам год працы ў напаўлегальных умовах — ліцэісты вучыліся па прыватных кватэрах і офісах грамадзкіх аб'яднаньняў — прайшоў, відаць, марна.

## Леванеўскага пасадзілі

Апошнім часам актывізавалася праца Камітэта дзяржаўнае бясьпекі. Не пасьпелі суцішыцца жарсьці пасьля арышту Міхаіла Марыніча, пра якога "Беларус" пісаў мінулым разам, як КДБ знайшоў новую ахвяру.

1 траўня ў Горадні, ля пад'езду свайго дому быў затрыманы лідэр Беларускага страйкаму прадпрымальнікаў Валер Леванеўскі. Прычына затрыманьня — расклейваньне ўлётак, што заклікалі прыйсьці на санкцыянаваны гарадзкімі ўладамі мітынг. Леванеўскага напачатку асудзілі на 15 сутак, потым накінулі яшчэ трое. Але на гэтым справа ня скончылася — улёткі зьмяшчалі верш з рэзкай крытыкай Лукашэнкі.

7 траўня супрацоўнікі КДБ зладзіліператрус у кватэры Леванеўскага, а таксама ў кватэрах ягоных сваякоў і знаёмых. А 19 траўня ў КДБ "узьнікла падазрэньне" ва ўчыненьні Леванеўскім злачынства, прадугледжанага, часткаю 2 артыкулу 368 Крымінальнага кодэксу Беларусі — публічная абраза прэзыдэнта краіны, што прадугледжвае пазбаўленьне волі тэрмінам да трох гадоў. Нагадаем, што паводле падобных артыкулаў, ужо адбылі свае тэрміны журналісты Павал Мажэйка, Мікола Маркевіч, Віктар Івашкевіч.

## Лябедзьку аштрафавалі

8 траўня ў беларускай сталіцы прайшоў VIII зьезд Аб'еднанай грамадзянскай партыі, найбуйнейшай і найактыўнейшай апазыцыйнай партыі ў Беларусі. Праўда, трэба ўлічваць, што рэйтынг даверу самай папулярнай апазыцыйнай партыі ў насельніцтва складае 5-6 адсоткаў.

Ніякіх нечаканасьцяў на зьезьдзе не адбылося. Партыя пацьвердзіла свой удзел у будучых парляманцкіх выбарах, не падтрымала кандыдатуру прадпрымальніка Андрэя Клімава, былога сябры АГП, які заявіў пра ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах 2006 году. Пры канцы зьезду на чарговы двухгадовы тэрмін на пасаду старшыні партыі быў пераабраны Анатоль Лябедзька.

А праз некалькі дзён улады зрабілі палітыку падарунак. Аштрафавалі на 1 мільён 900 тыс. рублёў (амаль $900) за арганізацыю "Чарнобыльскага шляху". І якая розьніца цяпер, што Лябедзька ні арганізатарам ня быў, ні ў шэсьці ня браў удзелу.

## Канфлікт у Маладым фронце

23 траўня ў Менску прайшоў Сойм Маладога фронту. Яшчэ ўзімку *Павал Севярынец* пакінуў пасаду старшыні арганізацыі.

На сойме 23 траўня прыхільнікі абодвых кандыдатаў на пасаду старшыні Маладога фронту — старшыні менскай арганізацыі Зьмітра Дашкевіча і берасьцейца Сержука Бахуна — моцна палаяліся. Яны абвінавачвалі апанэнтаў у розных палітычна-арганізацыйных махінацыях. Дашкевіч — больш радыкальны лідэр, які робіць стаўку на вулічныя мэтады барацьбы, Бахун — больш памяркоўны, які лічыць, што вулічныя мэтады — гэта ня самае галоўнае ў дзейнасьці арганізацыі. Урэшце, калі разлад на сойме дасягнуў апагею, і з боку дэлегатаў пачаліся самавольныя выступы, Севярынец паставіў на галасаваньне пытаньне пра перанос сойму на пазьнейшы тэрмін. Большасьць дэлегатаў пагадзілася з прапановаю.

Празь дзень МФ зладзіў прэсканфэрэнцыю, дзе Дашкевіч і Бахун заявілі, што, ня гледзячы на разнагалосьсі, для іх галоўнае — незалежнасьць Беларусі.

## Будзе вобласьць-сад

У траўні Лукашэнка зладзіў некалькідзённую вандроўку на Магілёўшчыну. У адным з выступаў ён загадаў, каб у найбліжэйшыя два з паловаю гады ў вобласьці былі павялічаныя як мінімум у 2,5 разы плошчы пад сады. Мауляў, завалім яблыкамі не толькі ўсіх суседзяў, але і краіны Захаду. Сярод розных спрэчных момантаў, яшчэ адзін маленечкі нюанс: Магілёўская вобласьць на трацціну забруджаная наступствамі Чарнобылю.

## На Ўсенародны сход...

Дэпутат Валер Фралоў заявіў, што дэпутаты групы "Рэспубліка" палаты прадстаўнікоў маюць намер правесьці ў ліпені Ўсенародны сход з удзелам дзесяткаў тысяч людзей. На сходзе мяркуецца падвесьці вынікі 10-гадовага кіраваньня краінаю Аляксандрам Лукашэнкам (20 ліпеня 1994 г. Лукашэнка афіцыйна прыняў прысягу).

Фралоў зазначыў, што "10 гадоў кіраваньня Лукашэнкі падыходзяць да канца. У Канстытуцыі сказана, што крыніцаю улады ў нас зьяўляецца народ — і мы хочам параіцца з народам... каб быў плюралізм, каб выказаліся розныя бакі й ацанілі, ці варты Лукашэнка таго, каб працягнуць свой тэрмін".

Тым часам адна з камуністычных партыяў Беларусі, якая апантана падтрымлівае рэжым і змагаецца за адраджэньне СССР, выступіла з заяваю, сутнасьць якой зводзіцца да наступнага: хай Лукашэнка кіруе колькі захоча і не зважае на апазыцыю.

## Забаранілі патруляваньне Курапатаў

У пачатку траўня, здавалася, намеціўся істотны зрух у справе Курапатаў. Бараўлянскі сельскі выканкам даў дазвол на стварэньне зь ліку актывістаў Партыі БНФ, маладафронтаўцаў, сябраў Беларускае партыі свабоды, "Зуброў" добраахвотнае народнае дружыны па ахове мэмарыялу Курапаты.

22 траўня мусіла адбыцца першае патруляваньне, аднак хлопцы, што прыйшлі ў Курапаты, даведаліся, што Бараўлянскі сельвыканкам сваё рашэньне адмяніў. Прычына — ніхто зь членаў дружыны не жыве і не працуе на тэрыторыі Бараўлянскага сельскага савету.

Ня гледзячы на гэта, дабраахвотнікі заяўляюць, што будуць і надалей несьці вахту.

*Уласны карэспандэнт*

## Дзе хто хоча жыць

Усерасейскі цэнтар вывучэньня грамадзкай думкі (ВЦІОМ) апублікаваў вынікі чарговага дасьледаваньня. Сацыёлягі высьвятлялі, наколькі папулярныя ў Беларусі, Украіне і Расеі працэсы інтэграцыі гэтых трох краінаў.

Асноўнымі кропкамі сутыкненьня паміж трыма народамі, на думку апытаных, зьяўляюцца супольнае гістарычнае мінулае, роднасныя сувязі й супадзеньне эканамічных інтарэсаў. Пры гэтым калі для расейцаў найважней супольнае гістарычнае мінулае, то для украінцаў і беларусаў – эканамічныя інтарэсы.

Паказальна, што менавіта ў Беларусі найбольшы адсотак апытаных адказалі, што для зьбліжэньня трох народаў няма аніякіх падставаў. У Беларусі гэтак лічыць 10%, у той час як у Расеі й Украіне – па 6% апытаных.

Але найбольш сэнсацыйныя дадзеныя былі атрыманыя ў адказ на пытаньне "Калі-б вы маглі выбіраць, дзе-б вы хацелі жыць?" "У сваёй уласнай краіне" – гэтак адказалі 51% расейцаў, 32% украінцаў і 28% беларусаў. Столькі-ж, 28% беларусаў, заявілі, што хацелі-б жыць у аб'еднанай Эўропе, у той час як у Расеі пра гэта заявілі толькі 11%, а ва Ўкраіне – 15%.

У адрозьненьні ад расейцаў і ўкраінцаў, беларусы менш за іншых хацелі-б жыць і ў аднаўленым СССР – 15%, у той час як у Расеі й Украіне – па 19%.

І, нарэшце, колькасьць ахвотных жыць у аб'еднаным саюзе Беларусі, Расеі й Украіны – у Беларусі – 17%, у Расеі – 9%, і ва Украіне 23%.

## Новы мытны закон

1 чэрвеня апублікаваны ўказ Лукашэнкі, згодна зь якім празь месяц будуць павялічаныя мытныя плацяжы за транспартныя сродкі, бытавую тэхніку, харчаваньне ды іншыя тавары, якія ў прыватным парадку ўвозяць з-за мяжы. Экспэрты ўжо назвалі гэтыя захады "драконаўскімі".

Мэта ўказу, які рыхтаваўся ў Дзяржаўным мытным камітэце, — абмежаваць выкарыстаньне ў камэрцыйных мэтах тавараў, якія перавозяцца для асабістага карыстаньня, а таксама паставіць заслону на ўвоз аўтаў старэйшых за 14 гадоў. Цяпер беларусы, якія купляюць аўта за мяжою, павінны будуць плаціць за іх не 0,55 эўра за кубічны сантымэтар аб'ёму рухавіка, а 2 эўра. Гэта складзе 2–3 тысячы эўра за аўтамабіль, што пазбаўляе ўсялякага сэнсу самую пакупку.

За новыя (да 3 гадоў) аўтамабілі мытная стаўка таксама падвышаная, яна складае 0,6 эўра.

Пабытовая тэхніка для фізычных асобаў будзе абкладацца мытам 30% ад яе вартасьці. Можна будзе бязмытна ўвезьці 5 кг харчоў, за кожны лішні кг трэба будзе заплаціць 2 эўра.

За імпарт мэблі прыйдзецца заплаціць 50% яе вартасьці.

Затое зь 1 ліпеня да 31 кастрычніка дазваляць ўвозіць да 30 кг прадуктаў з краінаў СНД замест ранейшых 10. Мытнікі чакаюць дадатковага росту плацяжоў у дзяржбюджэт.

*Паводле Радыё Свабода*

## Спэлчэкер для беларускай мовы

*Працяг з бачыны 1*

Адною зь першых (права гаспадыні!) выступала рэктарка Лінгвістычнага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Натальля Баранава. Яна сумленна прызналася, што дзесяць гадоў назад, калі прыйшла на гэтую пасаду, двух словаў па-беларуску сказаць ня ўмела. Але кантакты з выкладчыкамі й студэнтамі змусілі вучыцца. І яна вітае стварэньне кампутарнай праграмы, бо гэта дасьць якасны штуршок навучаньню, якое цяпер усё больш тэхнічна аснашчане. (Ад сябе дадам, што прамаўляла спадарыня Баранава без паперкі й моўных памылак не рабіла.)

Доктар філялёгіі, прафэсар Генадзь Цыхун быў навуковым кансультантам завершанага праекту. Ён адзначыў, што менавіта апантанасьць і высокі прафэсыяналізм удзельнікаў гэтай грамадзкай ініцыятывы дазволілі якасна і хутка выканаць такую вялікую і складаную працу. Асобна спыніўся на існаваньні двух варыянтаў правапісу. У іншых эўрапейскіх краінах надараліся падобныя сытуацыі. Спробы сілаю уніфікаваць правапіс станоўчых вынікаў не далі, ледзь мянялася грамадзка-палітычная сытуацыя, як праблема паўставала зноў. Выйсьце прафэсар бачыць у паступовай канвэргенцыі. Для гэтага найперш трэба даць магчымасьць мове вольна разьвівацца.

У spell-checker/ы ўвасобіліся вынікі працы групы ўпраднікаў клясычнага правапісу (Юрась Бушлякоў, Вінцук Вячорка, Зьміцер Санько, Зьміцер Саўка), працы, якая доўжылася некалькі гадоў. Вітаючы кампутарную праграму праверкі беларускага правапісу, мовазнаўца і палітык Вінцук Вячорка сказаў: "У чалавечай гісторыі новае стагодзьдзе неабавязкова пачынаецца з нулявога году. Вось-жа XXI стагодзьдзе для беларускае мовы пачалося сёньня. Са зьяўленьнем артаграфічнае праграмы нашая мова стаецца адэкватнаю інфармацыйным выклікам сучаснасьці. Нажаль, дзяржава ня брала ніякага ўдзелу ў стварэньні беларускага электроннага карэктару, хаця ўсе суседнія дзяржавы цалкам узялі на сябе цяжар распрацоўкі падобных праграмаў для сваіх моваў. Што-ж, тым больш вартая праца, якую зрабілі людзі на грамадзкіх асновах, і тым больш відавочна, што беларуская мова жыве паўнавартасным жыцьцём, нягледзячы на дзяржаўную палітыку".

Клопат аб роднай мове павінен быць агульным. Таму стваральнікі кампутарнай праграмы зьвярнуліся з просьбаю да ўсіх будучых спажыўцоў іх прадукту: дасылайце заўвагі й прапановы, каб удасканаліць гэтую праграму і спрыяць узрастаньню культуры мовы сярод яе карыстальнікаў.

*Валянціна ТРЫГУБОВІЧ*

# 60 гадоў Другому Ўсебеларускаму Кангрэсу: 1944-2004

60 гадоў таму, 27 чэрвеня 1944 году, адбылася адна з найважнейшых падзеяў гісторыі Беларусі — Другі Ўсебеларускі Кангрэс. Сход, які яшчэ раз пацьвердзіў імкненьне беларусаў да незалежнасьці.

Дзеячоў, што згуртаваліся вакол Беларускае Цэнтральнае Рады, створанай у сьнежні 1943 году, не задавальняла тое, што ўладу БЦР атрымала зь нямецкіх рук і падпарадкоўвалася яна паводле статуту нямецкаму цывільнаму кіраўніцтву.

Вось што пісаў Іван Касяк, у 1944 годзе намесьнік прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага на Глыбоцкую акругу: "БЦР хацела стварыць аўтарытэтнае прадстаўніцтва, што паходзіла-б з волі беларускага народу. Такая рэпрэзэнтацыя пры наяўнасьці собскае збройнае сілы магла-б быць дзейнікам, зь якім-бы лічыліся нямецкія акупацыйныя ўлады, а заходні сьвет — як з самастойным беларускім дзяржаўным фактарам".

Ідэя правядзеньня Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, які-б заканадаўча аформіў стварэньне БЦР, высьпела ў студзені 1944 году, літаральна праз некалькі тыдняў пасьля стварэньня беларускага ўраду. Дзеля ягонага правядзеньня неабходная была грунтоўная падрыхтоўка. У красавіку быў створаны арганізацыйны камітэт, выпрацаваныя падставовыя дакумэнты, у акругі даслалі дырэктывы, што тычыліся мэтодыкі абраньня дэлегатаў на форум.

Кангрэс быў прызначаны на 27 чэрвеня. Вось уражаньні ад гэтага дня ведамага грамадзка-культурнага дзеяча Яўхіма Кіпеля, надрукаваныя ў кнізе "Эпізоды": "Дзень 27 чэрвеня 1944 году ўспамінаецца мне ўрачыстым, па-сапраўднаму сьвяточным: у Менску пачалі хадзіць трамваі, упрыгожаныя нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сьцягамі, на вуліцах шмат руху, усюды ва ўстановах людзі з правінцыі, багата моладзі — бальшыня ва ўніформах СБМ".

Другі Ўсебеларускі Кангрэс праходзіў у Менскім гарадзкім тэатры. Уваход быў упрыгожаны "Пагоняй" і бел-чырвона-белымі сьцягамі, а будынак ахоўвалі дзеля ўнікненьня правакацыяў — як з боку немцаў, так і з боку савецкіх падпольшчыкаў-тэрарыстаў — жаўнеры Беларускае Краёвае Абароны.

На Кангрэс зьехаліся 1039 дэлегатаў з усіх куткоў Беларусі. Найбольшае прадстаўніцтва было ад Менску і Меншчыны (201 і 115 адпаведна), Баранавіцкай (155), Глыбоцкай (105), Вялейскай (65) акругаў. Былі таксама прадстаўнікі з Магілёўшчыны, Смаленшчыны, Гомельшчыны, Віцебшчыны, Браншчыны, якую пачалі займаць ці ўжо занялі савецкія войскі, — усяго 40 чалавек. Прыехалі дэлегаты зь Вільні, Варшавы, Бэрліну, Рыгі, Кёнігсбэргу. Бралі ўдзел у працы Кангрэсу такія ведамыя грамадзка-культурныя дзеячы, як паэткі Натальля Арсеньнева і Ларыса Геніюш, пісьменьнікі Хведар Ільляшэвіч, Юрка Віцьбіч, дырэктар Віленскай Беларускай гімназіі Францішак Грышкевіч, адзін з кіраўнікоў Слуцкага Збройнага Чыну Антон Сокал-Кутылоўскі, беларускі вайсковы дзеяч Кастусь Езавітаў ды інш.

Паводле прафэсыйнага складу настаўнікаў было 276 чалавек, сялянаў — 245, службоўцаў — 234, рабочых — 142; вышэйшую адукацыю мелі 217 дэлегатаў, сярэднюю — 496.

Як бачым, рэпрэзэнтацыя — як з сацыяльнага, так і тэрытарыяльнага гледзішча — была даволі ўражлівая: у прыватнасьці, прысутнічалі дэлегаты з усёй Беларусі, што рабіла Кангрэс правамоцным. Чаго, дарэчы, не адбылося падчас Усебеларускага Праваслаўнага Царкоўнага Сабору ў жніўні — верасьні 1942 году, на якім не было дэлегатаў з Усходняй Беларусі, а прысутнічалі толькі прадстаўнікі ад Менскай і Баранавіцка-Навагарадзкай япархіяў.

Старшынём Кангрэсу быў абраны Яўхім Кіпель, віцэ-старшынямі — Іван Касяк і былы пасол Польскага сэйму Васіль Рагуля.

Дэлегаты разглядалі Сход у якасьці пераемніка Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, які прайшоў у сьнежні 1917 году ў гэтым-жа тэатры, толькі ва ўмовах бальшавіцкае акупацыі. Невыпадкова ў прэзыдыюм былі запрошаныя ягоныя ўдзельнікі — Фабіян Ярэміч, палкоўнік Кастусь Езавітаў, настаўніца Алена Паваротная, доктар Янка Станкевіч. Зазначым, што дэлегатам Першага Ўсебеларускага Кангрэсу быў і прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады Радаслаў Астроўскі.



*Прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі. Здымак першай паловы 1940-х гг.*

У сваіх прамовах зьезд віталі генэральны камісар Беларусі фон Готбэрг, жаўнеры Беларускае Краёвае Абароны, Службы парадку Ўсходняга фронту, Саюз Беларускае моладзі, выступоўцы ад імя праваслаўнага, каталіцкага сьвятарства, беларускіх баптыстаў і г. д.

Перад дэлегатамі выступіў Радаслаў Астроўскі, які злажыў справаздачу аб працы праведзенай БЦР, перадусім, у галіне школьніцтва, культуры, навукі. Пры канцы выступленьня ён склаў зь сябе паўнамоцтвы прэзыдэнта. Аднак дэлегаты Кангрэсу запярэчылі такой адстаўцы, пастанавіўшы, што ад 27 чэрвеня 1944 году Беларуская Цэнтральная Рада на чале зь ейным прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім абвяшчаецца адзіным правамоцным прадстаўніцтвам беларускага народу.

У дакладзе віцэ-прэзыдэнта БЦР Міколы Шкялёнка "Аб прызнаньні за няважныя пастановы ўраду СССР і былой Польшчы, якія датычацца Беларусі, яе тэрыторыі і народу" падкрэсьлівалася, што пастановы й трактаты ўрадаў СССР і Польшчы, напрыклад, Рыская дамова 1921 году і пастановы Народнага сходу ў Беластоку ў 1939 годзе, прызнаюцца несапраўднымі.

Аўген Калубовіч у сваім дакладзе прапанаваў "заявіць урадам і народам усіх краінаў, што мы — беларусы — канчальна парываем ўсялякія сувязі з Масквою. Адначасна мы сьцьвярджаем, што ўсякі голас Масквы ў беларускіх справах павінен уважацца імі за нямаючы ніякай праўнай сілы, а твораныя Масквою нібы беларускія ўрады — ніякіх праўных кампэтэнцыяў".

Рэзалюцыя ІІ Усебеларускага Кангрэсу, прынятая аднагалосна дэлегатамі сходу, пацьвярджала гістарычную пастанову Трэцяй Устаўнай Граматы Рады БНР ад 25 сакавіка 1918 году, што абвясьціла незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі. Тым самым БЦР абвяшчала сябе пераемніцай Рады БНР, якая ў той час афіцыйна ня дзейнічала і была адноўленая толькі пры канцы 1947 году.

Наступныя пункты рэзалюцыі Другога Ўсебеларускага Кангрэсу сьведчылі:

"— Пацьвердзіць, што Беларускі Народ ніколі не прызнаваў, не прызнае цяпер і ніколі не прызнае ў будучыні за форму сваёй беларускай дзяржаўнасьці, накіненыя яму маскоўскімі захопнікамі формы БССР.

— Паведаміць усе ўрады й народы сьвету, што голас Масквы й СССР у беларускіх справах ня мае ніякай праўнай сілы, а ўсе, твораныя Масквою нібыта беларускія ўрады, ня маюць ніякіх праўных кампэтэнцыяў, бо не вызнаюцца Беларускім Народам. Таму ўсе ўмовы ці аднабаковыя пастановы ўрадаў СССР, былой Польшчы і сучаснага гэтак званага эміграцыйнага ўраду Польшчы, якія датычаць тэрыторыі Беларусі й Беларускага Народу і якія былі зробленыя раней, або будуць зробленыя ў будучыні, — Другі Ўсебеларускі Кангрэс абвяшчае ня маючымі ніякай праўнай сілы: як ня будуць мець сілы і ўсялякія іншыя магчымыя спробы падзелу Беларусі з боку іншых дзяржаваў і народаў.

4. Адзіным прадстаўніком Беларускага Народу і ягонага краю зьяўляецца сягоньня Беларуская Цэнтральная Рада з Прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім на чале".

На гэтым Кангрэс і скончыў работу. Зьдзейсьніць задуманае не ўдалося. Праз некалькі дзён пачалася эвакуацыя зь Менску — і Беларуская Цэнтральная Рада вымушаная была выехаць, разам зь іншымі грамадзкімі ўстановамі, на эміграцыю.

Працаўнікі Астроўскага закідалі яму і БЦР тое, што Кангрэс праходзіў пад поўным нямецкім кантролем. Аднак ня трэба забывацца, што і Першы Ўсебеларускі Кангрэс адбываўся ў акупацыйных, толькі бальшавіцкіх, умовах. Урэшце, камуністы яго і разагналі. А абвешчаньне незалежнасьці БНР у сакавіку 1918 году адбывалася ўжо пры кайзэраўскіх войсках, якія БНР так і не прызналі. Аднак гэтыя абставіны ніколькі не прыніжаюць важнасьці дзьвюх падзеяў. Тое ж і Другі Ўсебеларускі Кангрэс. На ім беларусы, хоць і ва ўмовах нямецкае акупацыі, але заявілі пра існаваньне Беларусі.

Канечне, пастановы Другога Ўсебеларускага Кангрэсу былі ў большасьці дэкляраціыйнымі й не маглі быць зрэалізаванымі — фронт ужо грымеў пад Менскам. Але яны лішні раз нагадалі, што беларускі народ, ці ягоныя найлепшыя прадстаўнікі, не ўспрымаюць спакойна чарговую акупацыю Беларусі — на гэты раз савецкую, — а заяўляюць пра сваё імкненьне да незалежнасьці Беларусі.

*Алег ГАРДЗІЕНКА, сябра рэдакцыі "Запісаў БІНІМ"*



*Радаслаў Астроўскі на трыбуне Кангрэсу падчас справаздачы. На пяреднім пляне — Фабіян Ярэміч, за ім — Васіль Рагуля.*



*Менскі гарадзкі тэатар падчас правядзеньня Другога Ўсебеларускага Кангрэсу.*




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №6 (461)


# Штогадовы справаздачна-выбарчы сход

Справаздачна-выбарчы сход нью ёрскага аддзелу БАЗАадбыўся 8 траўня. Напачатку старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка абвесьціў парадак дня і азнаёміў прысутных з асноўнымі падзеямі ў Беларусі за мінулы месяц.

Затым прысутныя сябры аддзелу абралі выбарчую камісію ў складзе С. Капыткі (старшыня), С. Пятровіча, В. Якімовіч і З. Вашкевіч. Прайшла рэгістрацыя сяброў аддзелу, падчас якой зарэгістраваліся разам з упаўнаважаньнямі 50 асобаў з правам голасу. Затым заслухалі справаздачы старшыні, сакратара і скарбніка аддзелу. Усім вынесены абсалютурыюм "з падзякаю". Пасьля адбылося высоўваньне кандыдатураў. Гэтым разам акрамя кандыдатуры дзейнага старшыні сп. В. Зайкі іншых кандыдатураў не прапанавана. Сп. Зайка выступіў з сваёю праграмаю, у якой падкрэсьліў неабходнасьць пашырыць і ўзмоцніць захады па набыцьці аддзелам сваёй сядзібы, па прыцягненьні да працы аддзелу шырэйшых колаў эмігрантаў зь Беларусі ў Нью Ёрку, па ўзмацненьні дачыненьняў з амэрыканскімі ўладамі й па актывізацыі грамадзкай і таварыскай працы сярод сяброў аддзелу. У выніку прайшоўшага галасаваньня сп. Віталь Зайка быў пераабраны на пасаду старшыні аддзелу. Затым было абрана кіраўніцтва аддзелу ў наступным складзе: А. Міцкевіч—ганаровы старшыня, М. Клакоцкі—віцэ-старшыня, В. Якімовіч—сакратар, В. Дворнік-скарбнік, Ф. Бартуль — старшыня рэвізыйнай камісіі, а. Я. М. Э. Рыжы й З. Левіт — сябры рэвізыйнай камісіі, А. Орса-Романо, Ю. Андрусышын, С. Пятровіч, А. Колбун, Т. Красоўская, В. Едзіновіч, У. Цяліца. У разьдзеле "Рознае" прагучэлі аб'явы й паведамленьні, адбылося знаёмства з гасьцямі аддзелу. Затым прысутныя мелі магчымасьць калегаваца і заводзіць новыя знаёмствы пры кубку кавы й пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

## Архірэйская Багаслужба

*Працяг з бачыны 1*

віншавалі ў ягонай ролі ярарха БАПЦ сп.сп. Аляксандар Сільвановіч ад імя Кансысторыі БАПЦ, сп. Віктар Дубяга і сп. Янка Запруднік ад прыхаджанаў, сп. Зянон Пазьняк ад свайго імя.

Япіскап Васіль (у сьвецкім жыцьці Віктар Касьцюк) нарадзіўся 11 верасьня 1971 году ў Пінску. Скончыў у 1995 годзе Жыровіцкую духоўную сэмінарыю, а ў 1999 годзе – Маскоўскую духоўную акадэмію. За навуковую працу "Гісторыя Пінскае япархіі (1921—1944 г. г.)" атрымаў ступень кандыдата Багаведы. У студзені 1999 году прыняў манаскі пострыг зь імём Васіль, а ў красавіку таго-ж году быў высьвячаны на ерадыякана. Год працаваў выкладычкам у Менскай духоўнай акадэміі й сэмінарыі.ў Жыровічах.



Уладыка Васіль – аўтар шматлікіх працаў з гісторыі праваслаўя ў Беларусі. Ён мае падрыхтаваную да доктарскай абароны працу "Гісторыя праваслаўя на Беларускім Палесьсі (Х—ХХст. ст.)", якую спадзяецца абараніць пад канец году сёлета.

Урачыстая сустрэча з новым япіскапам прайшла вельмі памысна. Пасьля спажытку ежы была разыграная лятарэя. Старшыня царкоўнай рады сп. В. Дубяга падзякаваў усім за прыбыцьцё на сьвята — Уладыку Васілю і а. Вячаславу за малітвы, сп. сп. Якубу Сапежынскаму і Лёву Стагановічу за вядзеньне хору, харыстам, ахвярадаўцам фантаў на лятарэю, сп-ву Марыі й Кастусю Верабʼям за нарыхтаванае печыва ды сп-ням Люсі Корнэр, Ані Лук'янчук і Тамары Януш, якія падрыхтавалі смачны абед і абслужылі застольле.

Уладыка Васіль блаславіў усіх малітваю.

*(Я.З.)*

### Уплаты ў нью ёркаўскі аддзел БАЗА:

**Ахвяраваньні й складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Алеся Кіпель | 240 | А. Ларыёнаў | 30 |
| З. Васілец | 30 | Л. Лунёва | 30 |
| З. Грэцкі | 30 | С. Пятровіч | 30 |
| М. Жыновіч | 30 | Я. Сасноў | 30 |
| І. Зорына | 30 | А. Сурмач | 30 |
| П. Кананові ч | 30 | С. Шчэрбацэвіч | 30 |
| Аляўціна Кіпель | 30 | Т. Чабанава | 20 |
| А. Ламакін | 30 | Н. Шашкель | 20 |

## Наступны сход

нью ёркаўскага аддзелу БАЗА будзе прысьвечаны 60-годзьдзю зь дня народжаньня Старшыні БНФ "Адраджэньне" Зянона ПАЗЬНЯКА і адбудзецца ў залі сабору Сьв. К. Тураўскага ў Брукліне па адрасу:

**401 Atlantic Ave**

Запрашаем сяброў аддзелу і ўсіх зацікаўленых.

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

*Чэкі выпісвайце на Belarusan American Association.*

## ПАДПІСКА

на выданьні зь Беларусі на другую палову 2004 году.

З дасылкаю зь Беларусі ў замежжа:

| | Назва, выдавец, мова | Пэрыядыч. друку | Кошт, $ |
|---|---|---|---|
| Газэты: | Наша Ніва, прыватнае, беларуская | 4 на месяц | 60 |
| | Наша Слова, ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 40 |
| | Новы час, ТБМ, беларуская | 2 на месяц | 40 |
| | Культура, дзяржаўная, беларуская | 4 на месяц | 60 |
| | Літаратура і Мастацтва, дзярж., бел. | 4 на месяц | 60 |
| Часапісы: | Arche, прыватны, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 30 |
| | Дзеяслоў, прыватны, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 30 |

Для жыхароў Беларусі (для сваякоў і знаёмых)

| | Назва, выдавец, мова | Пэрыядыч. друку | Кошт, $ |
|---|---|---|---|
| Газэты: | Наша Ніва, прыватнае, беларуская | 4 на месяц | 10 |
| | Наша Слова, ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 7 |
| | Новы час, ТБМ, беларуская | 2 на месяц | 10 |
| | Культура, дзяржаўная, беларуская | 4 на месяц | 10 |
| | Літаратура і Мастацтва, дзярж., бел. | 4 на месяц | 10 |

Вы можаце выпісаць і іншыя выданьні зь Беларусі акрамя пералічаных у сьпісе. Па інфармацыю зьвяртайцеся на адрас: hazetabielarus@att.net

*Заўвага: газэты дасылаюцца авіяпоштаю, часапісы звычайнаю.*
*Падпіска працягваецца да 18 чэрвеня 2004 году.*
*Замовы й аплату сваечасова дасылайце ў рэдакцыі на адрас:*

*BIELARUS*
*P. O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*

*Чэкі, калі ласка, выпісайце на імя BIELARUS.*

# Нашая фанатэка

# Нацыянальнае войска ёсьць

*"Ґенэралы айчыннага року", Мн., 2004, "БМАgroup"/"BelPi"*




Бадай, гэтае выданьне фіксуе сабою зьяўленьне новай традыцыі ў Беларусі – гуртаваньне нацыянальных творчых сілаў пад брэндам вялікага фэсту ўжо не на эміграцыі (як "Басовішча"), а ў мэтраполіі. А паколькі ў гэтага брэнду зьявіўся і спонсар – гарэлачная кампанія "BelPi", – дык і фэст узяў дэвізам слёган, які ўтрымлівае назву лепшай іхняй гарэлкі "Ґенэрал".

Улетку 2003 году ў менскім парку Чалюскінцаў (ці Сківіцоўцаў, як яго называе моладзь) з аншлягам прайшоў трэніровачны тур гэтага ґенэральскага параду, які паказаў, што беларускі рок даўно вырас з кароткіх нагавіцаў абмежаваных клюбных пасядзелак і прагне выбрацца на вялікія сцэны.

25 красавіка 2004 году гэта і адбылося, калі ў перапоўненай залі Менскага лядовага палацу (3000 месцаў) прайшла прэзэнтацыя першай ґенэральскай складанкі – CD "Ґенэралы айчыннага року", за ўдзел у якой празь некалькі этапаў папярэдняга адбору змагаліся каля сямі дзесяткаў калектываў з усяе краіны. Былі сярод іх і сьведамыя прыхільнікі творчасьці ў нацыянальным кантэксьце, і кан'юнктуршчыкі, якія ўпершыню паспрабавалі зрабіць нешта на роднай мове. Натуральна, перамаглі лепшыя, але карысьць была для ўсіх.

Сярод маладых ды імпэтных апынуліся перш за ўсё рок-зоркі, запрыкмечаныя ўжо і сярод улюбёнцаў прыгаданага раней знакамітага фэстывалю "Басовішча" ў Польшчы: менскія "Partyzone", "Tesaurus" ды "Indigo", бярозаўскі ":Б:Н:", берасьцейская "Сьцяна".

Безумоўна, не абыйшлося і без куміраў сёньняшняга дня, якія засьведчылі сваю прысутнасьць у сур'ёзным шоў-бізнэсе: "N.R.M.", "Крама", "Znich", "Deadmarsh", "P.L.A.N.", "Стары Ольса".

Але моц кожнага дрэва наўпрост залежыць ад трываласьці ягоных каранёў. Для рок-музыкі гэта гістарычныя карані. Ці памятаюць іх сучасныя беларускія рок-заўзятары?

Бадай, гістарычная частка дыску найбольш моцная. У сур'ёзны лічбавы выдавецкі фармат трапілі нават тыя сымбалічныя легенды, пра захаваньне і тыражаваньне якіх нельга было і спадзявацца: менская "Мроя", баранавіцкая "Бонда", полацкі "Мясцовы час". Прарочыя песьні "Прыйдзе іх дзень", "Рок – гэта не прызваньне, а пазыцыя", "Наш шлях" (*"Ды ня згнасьне ў нас сьвятая злосьць/Покуль мы на гэтым сьвеце ёсьць"*) ажылі й натхнілі новае пакаленьне музыкаў, хоць самыя іхнія аўтары або адышлі ў расчараваньні, або працуюць ужо ў новых гуртах ("Zet", "Garadzkija", "Крамбамбуля"). Пераемнасьць пакаленьняў настолькі моцная ў гэтай плыні, што да яе далучаюцца нават тыя, хто яшчэ і ў назве сваёй пакуль вязьне ў балоце акупацыі (напрыклад "Куклы" з беларускамоўнай песьняй "Кібер"). А колісь рускамоўны "Neuro Dubel" нарэшце вярнуў у родную моўную стыхію і сваю галоўную песьню "Belarus Uber Alles".

Гадоў дваццаць таму беларуская музычна-крытычная эліта вылучыла глябальную аксыёму: "Народ, які ня мае сваёй мас-культуры, ня будзе мець у наш тэхнакратычны век культуры ніякай". Усе гэтыя гады беларуская мас-культура вымушаная была вытрымліваць барацьбу за выжываньне ў няроўных вагавых катэгорыях з татальным прэсынгам мас-культаўскай акупацыі з усходу (чужая сетка распаўсюду, чужыя радыёфарматы, здрадніцкая палітыка патэнцыйных спонсараў). Жыцьцё трымалася толькі на самаахвярнасьці энтузіястаў. Але сам гэты дыск, які дае красамоўны зрэз усяго лепшага ў беларускай мас-культуры з 80-х, 90-х і новага стагодзьдзя, паказвае сапраўдную трываласьць паўсталага дыямэнту, калі ў тыраж выходзіць глябальнае нацыянальнае асэнсаваньне сумарнага жыцьцёвага вопыту.



**Хоць міліцый й пільнавала камуністычны парадак на канцэрце, беларускі сьцяг рэгулярна рэяў над публікай.**



**"Neuro Dubel" — "Belarus Uber Alles"**

*Старыя рахункі, чужыя стандарты –*
*Такім будзе, пэўна, й 2005,*

- сьпявае ў 2004 гурт "Сьцяна" ў песьні пра нашае вечнае чаканьне вясны. А яна ўсё не прыходзіць, бо мы так і не спанатрыліся ніяк дагледзець свой нацыянальны тэзаўрус (мову, веру, гісторыю, пераемнасьць традыцыяў). Мы схільныя ў расчараваньні нават кінуць радзіме "Mein Faterland auf Wiedersehen" ("Крама"), хоць яна для нас і "...Uber Alles" ("Neuro Dubel"). І ўсё-ж ёсьць у нас "Крыжы-абярэгі" ("Znich"), таму "Краіна дурняў" ("Zet") неўзабаве "Пакуль сьпяваю" ("Ulis") будзе асэнсоўвацца "Ня больш за дым" ("Deadmarsh"), бо "Прыйдзе іх дзень" ("Бонда").

Як бачыце, першы зборнік "Ґенэралы айчыннага року" – гэта гісторыя краіны ў жывых і яркіх песьнях.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА**
**Фота К. Елісеева**

**Каб замовіць гэты CD поштаю дашліце $12 на адрас рэдакцыі газэты "Беларус".**

# Новыя твары

# "Я яшчэ шукаю сябе..."



Не адная сотня студэнтаў зь Беларусі пабывала ў ЗША за апошнія гады па розных студэнцкіх праграмах. Нямала зь іх, параўнаўшы два лады жыцьця і ня бачачы пэрспэктываў для сябе на Радзіме, вырашылі пакуль дахаты не вяртацца. Бальшыня хацела-б працягнуць вучобу ў Амэрыцы, атрымаць прафэсію. Амаль усе потым хацелі-б вярнуцца ў Беларусь, але не раней, чым зьменіцца кіраўніцтва краіны й дзяржаўная палітыка. Актыўныя з моладзі далучаюцца да дзейнасьці Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

На травеньскім сходзе нью ёрскага аддзелу БАЗА арганізацыі была падараваная карціна. Аўтарка яе — студэнтка зь Беларусі, самадзейная мастачка Ксенія Кудрашова. Нарадзілася яна ў Расеі ў сям'і вайскоўца. Бацькі пазьней пераехалі жыць у беларускі горад Баранавічы. Падчас вучобы ў школе Ксенія наведвала таксама заняткі ў мастацкай школе, дзе і навучылася маляваць. Пасьля заканчэньня школы яна паступіла на эканамічны факультэт аднаго зь менскіх унівэрсытэтаў. Калі да канца вучобы заставаўся год, выпала магчымасьць паехаць у ЗША, якую яна і скарыстала.

Ужо амаль год Ксенія жыве ў штаце Масачусэтс у курортнай мясцовасьці на паўвыспе Кэйп Код. Марыць заашчадзіць грошай, каб закончыць вучобу па ўжо раней абранай спэцыяльнасьці эканаміста, а калі мае вольны час, то аддае яго маляваньню. Сябрам яе працы падабаюцца, і яна іх з радасьцю ім дорыць. На просьбу акрэсьліць стыль яе працаў яна адказала: "Гэта вельмі цяжка. Я яшчэ шукаю сябе, як мастачка." А на карціны маладой мастачкі трапляе ўсё, што яе хвалюе і кранае, ёсьць і партрэты, і пейзажы, і нацюрморты, і плякаты. Знаходзяць свой адбітак у яе творчасьці й тыя падзеі, што адбываюцца ў Беларусі, тое, з чым яна ня згодная.

Цяпер Ксенія рыхтуецца да першай сваёй мастацкай выставы, якая павінна адкрыцца гэтым летам у невялікай галярэі ў адным з гарадкоў Кэйп Коду. З радасьцю паінфармуем чытачоў "Беларуса" аб тым, дзе і калі гэтая выстава будзе, калі толькі будзем мець такую інфармацыю.

І якую-б дзялянку ня выбрала Ксенія Кудрашова для сваёй дзейнасьці ў будучым, эканоміку, бізнэс, мастацтва, хочацца пажадаць ёй посьпехаў і натхненьня, каб яе веды й талент служылі ня толькі Амэрыцы, але хоць і далёкай, але дарагой Беларусі.

**М. БУРАК**

**На здымках: Ксенія Кудрашова і дзьве яе карціны.**





# Дабраахвотнікі пайшлі ў дэзэртырства

Словы дэзэртыр і дэзэртырства паходзяць ад лацінскага слова, якое значыць пакідаць, кідаць. Адносіцца яно пераважна да асобаў, якія кінулі без дазволу ўзброеныя сілы. Ёсьць розныя прычыны, чаму жаўнеры кідаюць войска: баязьлівасьць, палітычныя погляды (ня хочуць служыць ці ваяваць у чужым войску), расавая ці рэлігійная дыскрымінацыя і т. п.

Аўтар гэтага артыкулу чуў аб дэзэртырствах з Польскага войска ў Палестыне ў 1942-45 гадох, аднак яго зьдзівіла і зацікавілі паведамленьне ў польскай газэце ў Палестыне, што ў далёкай Вялікабрытаніі дэзэртыравалі з Польскага войска жаўнеры (беларусы й украінцы), якія былі пракамуністычных поглядаў. Паўстала шмат пытаньняў, на якія тады немагчыма было знайсьці задавальняючага і аб'ектыўнага адказу. Хто-ж былі тыя жаўнеры, якія адважыліся на такі сур'ёзны ўчынак, за які згодна законам ваеннага часу прадугледжана нават сьмяротнае пакараньне?

Потым, ужо ў Англіі, у польскай газэце была невялікая зацемка пр гэты выпадак, пісалі, што гэтае пытаньне было парушана ў брытанскім парляманце. Поўны адказ на маё пытаньне атрымаў толькі ў 2003 годзе з дапамогаю беларускага гісторыка Юрыя Грыбоўскага, які пераказаў мне старонкі 258-275 з польскае кнігі пад назваю "Украінская справа ў палітыцы польскага ўраду за мяжою і яго прадстаўніцтваў у Польшчы (1939-1945)", Кашалін, 2001. Аўтар Чэслаў Партач.

Аказалася, што яшчэ ў 1943 годзе польскія вайсковыя ўлады даведаліся аб незадаволенасьці сярод жаўнераў-гэбраяў, і што яны (гэбраі) намерваліся пакінуць войска. Натуральна, што польскі штаб быў занепакоены такімі справамі й даў адпаведны загад "аб зьняцьці напружанасьці адносна нацыянальнасьці й веравызнаньня". У той самы час штаб даведаўся аб "акцыях сярод жаўнераў, мэтаю якіх было разьбіцьцё адзінства ў войску". Штаб занепакоіла тое, што акцыі зьдзяйсьнялі ўжо ня толькі гэбраі, але беларусы, украінцы й нават палякі. Трэба было нешта рабіць. Штаб паставіў выхоўваць жаўнераў праз родныя даклады й лекцыі. Да такой прапагандысцкай працы заклікалі праваслаўнага япіскапа Саву, галоўнага капэляна Польскіх Узброеных Сілаў за мяжою.

Выпадкі ўцёкаў з войска на той час былі наступныя. 16.01.1944 дэзэртыравалі 80 польскіх жаўнераў гэбрайскага паходжаньня. А 22.02.1944 было другое дэзэртырства гэбраяў, 154 жаўнеры. Трэцяе масавае дэзэртырства гэбраяў адбылося 21.03.1944, 24 жаўнеры. Свой учынак яны апраўдвалі антысэмітызмам і дамагаліся пераводу ў брытанскае войска.

23.03.1944 адбылося наступнае масавае дэзэртырства з Польскага войска ў Вялікабрытаніі, калі 25 жаўнераў пакінулі свае часткі. Гэтую групу апішам больш дэтальна, бо ў ёй былі беларускія дабраахвотнікі з Аргэнтыны. У той групе было 13 беларусаў, 8 украінцаў, 2 расейцы і 2 палякі. Калі ходзіць аб нацыянальнасьці двух "расейцаў", то імёны іхныя Байчук Сяргей і Максімчук Рыгор. Хучэй за ўсё яны былі ці беларусамі, ці ўкраінцамі. Трэба памятаць, што пры афармленьні дакумэнтаў праваслаўныя жаўнеры беларускага і ўкраінскага паходжаньня часта падавалі сваю нацыянальнасьць як "рускую" з-за нізкае нацыянальнае сьведамасьці. Калі ходзіць аб веравызнаньні, то сярод дэзэртыраў было 19 праваслаўных, 4 грэка-каталікі й 2 рымакаталікі. Трэба адзначыць, што ў гэтай групе ажно 22 жаўнеры былі дабраахвотнікамі з Аргэнтыны.

Усе дэзэртыры паехалі ў Лёндан і на наступны дзень іхныя дэлегаты пайшлі ў брытанскае вайсковае міністэрства, дзе выказалі сваю ахвоту перайсьці ў брытанскае войска. Супрацоўнік міністэрства адказаў, што "прынцыпова няма перашкодаў для іхняга пераходу, калі польскія вайсковыя ўлады дадуць на гэта сваю згоду". Адным словам, усё залежала ад адносінаў палякаў.

Выйсьця не было. На наступны дзень былыя дабраахвотнікі пайшлі ў польскае міністэрства народнай абароны. Прыняў іх прафэсар Мар'ян Гэйцманн — кіраўнікнік палітычнага аддзелу. Жаўнеры з Аргэнтыны казалі, што яны хочуць вярнуцца дахаты ў Аргэнтыну, але паколькі ў той час гэта было немагчыма, то яны дамагаліся пераводу ў брытанскае войска. Угаворы праф. Гэйцманна не далі вынікаў. Дзякуючы япіскапу Саву, усе жаўнеры-дэзэртыры засталіся ў Лёндане да нядзелі й потым прыйшлі на набажэнства, якое адправіў яп. Сава. Некаторыя з жаўнераў нават пайшлі да споведзі, каб гэтым даказаць, што яны не камуністы. У сваё часткі аднак ніхто не вярнуўся.

У польскіх вайсковых уладаў не было выйсьця. 29.03.1944 дэзэртыраў арыштавалі польская і брытанскія жандармы. Іх судзілі палявым судом. Суд адбываўся 18-28.04.1944 у Шкотыі ў горадзе Галашыльдс. Якая была абарона дэзэртыраў? Што яны казалі? На што наракалі? Вось якія былі іхныя нараканьні:

- іх не прызначылі ў вайсковыя часткі, якія абяцалі ў Аргэнтыне;
- прыдзіркі з боку камандзіраў і калегаў;
- беларус Ізідор Ішчык скардзіўся, што польскі афіцэр казаў яму ісьці на каталіцкія набажэнствы й не паведаміў праваслаўных жаўнераў аб набажэнствах у праваслаўнай царкве ў Эдынбургу;
- прымусовая праца ў кухні;
- абразьлівыя мянушкі, якія ім давалі;
- жаўнер Паньчык скардзіўся, што яго называлі "братам Сталіна" і гэта абражала яго;

Падчас допытаў дэзэртыраў і сьведкаў выясьнілася, што ў хвіліны вольныя ад заняткаў паміж "аргэнтынцамі" й палякамі вяліся гарачыя дыскусіі, бо падсудныя былі левых палітычных поглядаў, прыхільнікамі камунізму савецкага гатунку. Хвалілі яны ўсё расейскае і казалі, што там ёсьць дэмакратыя. Казалі таксама, што ня будуць ваяваць за польскіх паноў і польскую буржуазію. Такія выказваньні й погляды "аргэнтынцаў" натуральна нэрвавалі жаўнераў-палякаў, якія толькі вырваліся з катаргі ці перасяленьня у СССР. Нічога дзіўнага, што паміж прыхільнікамі камуністаў і жаўнерамі, якія паспрабавалі савецкай рэчаіснасьці, былі непаразуменьні й сваркі.

Усе апраўданьні падсудных былі ўважліва разгледжаныя судом. Аднак палякі падазравалі, што варожыя да Польшчы сілы былі ўмешаныя ў выпадкі дэзэртырства. Такую дзейнасьць, па іхных словах, вялі прасавецкі настроеныя асобы.

28.04.1944 суд агаласіў вырок. З 13 беларусаў 10 былі зьняволеныя на розныя тэрміны. Вось іхныя прозьвішчы й тэрміны: Ізідор Ішчык—2 гады й 3 месяцы; Міфодзі Будка, Хведар Дзямідовіч, Ізідор Катовіч, Мікалай Валасюк, Васіль Блоцкі, Макар Прохар—1 год і 10 месяцаў; Іван Яськевіч - 1 год і 6 месяцаў; Андрэй Коська—1 год і 5 месяцаў; Раман Шаўчук—1 год і 3 месяца. Аб трох беларускіх дэзэртырах сп. Ч. Партач нічога не ўспамінае. А "расейцы"? Рыгор Максімчук—1 год і 10 месяцаў, Сяргей Байчук—1 год і 6 месяцаў.

Вырок быў вельмі лагодны. Няма ніякога сумніву, што беларусам і ўкраінцам дапамог факт папярэдняга суду над гэбраямі, якія атрымалі ад 1 да 2 гадоў зьняволеньня. А палякі не маглі судзіць гэбраяў з-за вельмі моцных і ўплывовых гэбрайскіх арганізацыяў на Захадзе. Дык і сам вайсковы міністар генэрал Мар'ян Кукель сказаў наступнае: "...Трэба сказаць адкрыта: укаралі іх так лагодна, бо былі гэбраямі."

Беларусы й украінцы не былі доўга ў зьняволеньні, бо ўжо 12.05.1944 прэзыдэнт Уладыслаў Рачкевіч (між іншага родам зь Беларусі) выдаў дэкрэт аб амністыі. А польскае вайсковае міністэрства аддало загад, каб ад 22 верасьня 1944 году амніставаныя дэзэртыры былі накіраваныя на 12 месяцаў на працу ў вугальных капальнях і газоўнях.

Які быў далейшы лёс аргэнтынскіх беларусаў нам няведама. Таксама ня ведаем, які лёс напаткаў "аргэнтынцаў", якія ляяльна служылі ў польскім войску. Можна думаць, што бальшыня зь іх вярнулася ў Аргэнтыну. Ведаем толькі, што пасьля вайны некаторыя зь іх (найменш 11 жаўнераў) вярнуліся ў Беларусь. Потым, у 1951 годзе, Саветы вывезьлі іх разам зь сем'ямі ў Іркуцкую вобласьць.

Акрамя ўспомненых вышэй масавых дэзэртырстваў былі адзінкавыя выпадкі на Блізкім Усходзе і Італіі.

Тут у Англіі можна часта пачуць сьцьверджаньне, што ў Польскіх Узброеных Сілах на Захадзе не было нацыянальнай ці рэлігійнай дыскрымінацыі. Дык чым-жы былі выкліканыя масавыя дэзэртырствы? Адказ далі самыя дэзэртыры-непалякі ня словамі й довадамі, а нагамі, кінуўшы польскае войска.

*Міхась ШВЭДЗЮК, Англія*

# Беларусы на Заходніх франтох

Сёлета ў пачатку чэрвеня мінае 60 гадоў, як у францускай Нармандыі заходнія дзяржавы, Злучаныя Штаты, Вялікабрытанія, Францыя, а таксама Польшча ды іншыя ўтварылі так званы Другі фронт супраць гітлераўскай Нямеччыны.

Нашых цяперашніх чытачоў цікавіць калькасьць беларусаў, што ваявалі пераважна пад брытанскай камандаю у польскіх аддзелах. Найбольш зь іх знаходзілася ў другім корпусе ген. Андэрса ў Італіі. Пра змаганьне пад Монтэ Касіна лейтэнант Пётра Сыч напісаў базаваную на сваім досьведзе ў баёх аповесьць "Салаў'і і сьмерць".

Віктар Сянкевіч, зь якім мне даводзілася быць у польскім войску ў Італіі, пасьля канца вайны ў 1946 годзе атрымаў дазвол ад генэрала Капанскага, шэфа штабу Польскіх Узброеных Сілаў у Лёндане дасьледаваць у іхных архівах якая колькі беларусаў брала ўдзел у вайне, колькі загінула.

Пасьля грунтоўных пошукаў у архівах і гутарак з аўтарытэтнымі асобамі вынікі дасьледаваньня былі надрукаваныя ў часапісе "Зважай" № 2(8), лістапад 1977 і № 1(9) сакавік 1978.

"Не забывайма, - канчае свае падлікі Віктар Сянкевіч, - што да ўстаноўленай лічбы беларусаў жаўнераў Польскіх Узброеных Сілаў на 1 ліпеня 1946 году мусім дадаць і тых, што загінулі або памерлі. Такім чынам мы атрымаем канчатковы лік: 30 867."

*К. АКУЛА*

# Дакумэнтальная стужка пра герояў Монтэ Касіна

У Менску 20 траўня адбыўся прэм'ерны паказ у Беларусі фільму рэжысэра Ўладзімера Бокуна "Забытыя героі". Гэтая дакумэнтальная стужка пра лёс жаўнераў-беларусаў польскага корпусу генэрала Ўладыслава Андэрса, якія ў складзе брытанскіх войскаў вызвалялі ад нацыстаў Італію. Паказ фільму прымеркаваны да 60-годзьдзя перамогі корпусу Андэрса ў бітве пад Монтэ Касына.

Дэманстрацыя фільму "Забытыя героі" была арганізаваная супольна ягоным аўтарам Уладзімерам Бокунам і Польскім інстытутам у менскім Доме дружбы й культурных сувязяў з замежнымі краінамі.

Корпус генэрала Андэрса быў сфармаваны ў 1941 годзе ў Савецкім Саюзе пасьля падпісаньня адпаведнага пагадненьня з польскім эміграцыйным урадам. Ён быў створаны з польскіх грамадзянаў вязьняў ГУЛАГу, сярод якіх было шмат беларусаў. Корпус асабліва вызначыўся ў бітве за вышыню Монтэ-Касына ў Італіі. Пасьля амаль паўгадавога супрацьстаяньня жаўнеры генэрала Андэрса выбілі зь яе немцаў і адкрылі дарогу саюзьнікам на Рым. У цэнтры 26-хвіліннага дакумэнтальнага фільму Ўладзімера Бокуна — лёс героя Монтэ Касына беларуса Мікалая Гізіча зь вёскі Ручыца, што на Вялейшчыне. Да здымачнай групы ЗАТ "Тэлефільм" зьвярнуўся сын вэтэрана Стэфан Гізіч з ангельскага гораду Блэкбёрн і папрасіў адшукаць родных свайго бацькі. Дакумэнталісты знайшлі родную сястру Міколы Гізіча Людмілу, і вэтэран змог прыехаць да яе ў родную вёску праз 62 гады з часу расстаньня. Тады Ўладзімер Бокун і зьняў фільм "Забытыя героі" на замову расейскага тэлеканалу ТВЦ. Два месяцы таму адбылася яго прэмэ'ра на гэтым канале. Мікола Гізіч, на жаль, памёр на пачатку гэтага году.

Беларускіх вэтэранаў корпусу ген. Андэрса ўшанавалі ў Расеі. На пытаньне, чаму гэтага не адбываецца ў Беларусі, аўтар фільму адказаў: "Думаю, што гэта інэрцыя савецкага часу. Таму, што ў савецкі час яны нават не лічыліся ў нас вэтэранамі. Яны былі ўдзельнікамі вайны ў складзе замежнай арміі. З таго часу ў нас няшмат пра іх расказвалі. Да 1993 году яны нават не лічыліся вэтэранамі."

Усе правы на фільм "Забытыя героі" мае расейскі тэлеканал ТВЦ. Але рэжысэр гатовы зьняць і беларускую вэрсію фільму, прычым большую працаёмкасьцю. Уладзімер Бокун гаворыць, што матар'ялу ў яго хапае. Але пакуль ніводзін беларускі тэлеканал гэтым фільмам не зацікавіўся.

*Радыё Свабода*

# Таронцкі аддзел Згуртаваньня Беларусаў Канады

запрашае Вас на **26-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі**, якая мае адбыцца сёлета, у Labor Day Weekend, **4-6 верасьня 2004 году**, у **ТАРОНЦЕ, Канада**.

ТЭМА СУСТРЭЧЫ:

"Праблемы зьберажэньня культурных набыткаў, мовы і гістарычных каштоўнасьцяў Беларусі"

ПРАГРАМА СУСТРЭЧЫ:

**Субота, 4 верасьня**

гадзіна 2-я папоўдні – Адкрыцьцё Сустрэчы ў Беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры (524 St. Clarens Ave., блізу мэтро Lansdowne);

гадзіна 3-я папоўдні – Працоўныя сэсіі;

гадзіна 8-я вечара – Баль Сустрэчы і канцэрт у Lithuanian Hall (1573 Bloor Street West, блізу мэтро Dundas West).

**Нядзеля, 5 верасьня**

гадзіна 10-я раніцы – Багаслужба ў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве Сьвятога Кірылы Тураўскага;

гадзіна 12-я – абед у Беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры;

гадзіна 2-я папоўдні – урачысты сход сустрэчы й канцэрт (заля БГРЦ);

гадзіна 5-я вечара – экскурсія па Таронце (для жадаючых);

гадзіна 8-я вечара – сяброўская вечарына (заля БГРЦ).

**Панядзелак, 6 верасьня**

гадзіна 9-я раніцы – Паломніцтва да Беларускага Памятнага Крыжа ў Бэры.

Падчас Сустрэчы адбудзецца выстава беларускіх мастакоў Канады й Злучаных Штатаў Амэрыкі.

АРГАНІЗАЦЫІ-ФУНДАТАРЫ: Згуртаваньне беларусаў Канады, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.

АРГАНІЗАТАР-ГАСПАДАР: Таронцкі аддзел Згуртаваньня беларусаў Канады, (416) 530-1025.

АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ: **Кастусь Акула** – беларускі пісьменьнік, першы старшыня ЗБК; **Натальля Баркар** – сябра ЗБК; **Марыя Ганько** – сябра ЗБК; **Надзея Дробіна** – старшыня 26-й Сустрэчы, старшыня ўправы таронцкага аддзелу ЗБК; **Віялета Кавалёва** – галоўны рэдактар газэты "Беларускае слова", кіраўнік фальклёрнай групы "Яваровы людзі", сябра ўправы таронцкага аддзелу ЗБК; доктар **Руслан Качаткоў** – старшыня Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады; **Яўген Малашчанка** – сябра ўправы таронцкага аддзелу ЗБК; **Вольга Манькоўская** – сябра ўправы таронцкага аддзелу ЗБК; доктар **Пётр Мурзёнак** – старшыня галоўнай управы Згуртаваньня беларусаў Канады; **Валянціна Шаўчэнка** – сябра ўправы таронцкага аддзелу ЗБК.

Арганізатары просяць удзельнікаў своечасова паведаміць пра намер узяць удзел у Сустрэчы.

По інфармацыю просім зьвяртацца: Таронта – **Надзея Дробіна** (416-530-1025, 416-769-3916, 416-452-2200); Атава – др. **Пётра Мурзёнак** (613-733-5775); Мантрэаль – **Анатоль Храноўскі** (514-973-1639); Нью-Ёрк – **Віталь Зайка** (718-296-1458); Дэтройт – **Люда Бакуновіч** (586-779-3048); Чыкага – **Ванкарэм Ніківаровіч** (847-419-1943); Гайленд-Парк, Нью-Брансўік – **Юрка Азарка** (732-560-8610); Кліўленд – **Павал Васілеўскі** (440-268-0073) ; Бостан – **Раман Кардонскі** (781-369-1410)

Наконт пытаньняў разьмяшчэньня зьвяртацца да спадарыні **Валянціны Шаўчэнка** (Таронта) па тэл. 416-444-0838.

---

4 верасьня 2004 года ў Бэльгіі адбудзецца Зьезд прадстаўнікоў беларускай палітычнай эміграцыі «апошняй хвалі».

Мэтамі Зьезду ёсьць:

- абмеркаваньне становішча ў асяродку палітычных уцекачоў з Беларусі;
- вызначэньне ролі беларускай дыяспары "апошняй хвалі" ў працэсе дэмакратызацыі Бацькаўшчыны;
- кансалідацыя беларускай эміграцыі дзеля дапамогі беларускай палітычнай апазыцыі, а таксама дэмакратычным СМІ ў Беларусі.

Падрабязьнейшая інфармацыя па пад-рыхтоўцы Зьезду, беларускай эміграцыі даступная на: *http://www.razam.org*

Арганізатары чакаюць прапановаў ды заўвагаў.

Аргкамітэт:

Беларускае Эўрапейскае Задзіночаньне (Бэльгія);
Зьвяз Беларусаў Замежжа (Чэхія);
Зьвяз на карысьць дэмакратыі ў Беларусі (Польшча);
Зьвяз Беларусаў Нямеччыны;
Зьвяз Беларусаў Галяндыі;
Беларускі Цэнтар у Бэльгіі;

Кантактныя тэлефоны ў Бэльгіі: (32)485175599, (32)497117469.

- - - - - - - - - - - - - - - - - -

Сьвятар і парафіяльная рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Брукліне на

401 Atlantic Ave

запрашаюць вас на Божыя службы кожную нядзелю а 10-й гадзіне раніцы.

---

Фонд **ДАР САКАВІКА** атрымаў наступныя ахвяраваньні:

М. Сьнежка ............. $ 50
С. Шупа .................. 50
Л. Шыманец ............... 50
В. Цыганкоў .............. 50
В. Едзіновіч ............. 20
В. Еўдакімаў.... анг. фунт. 30
Ананімна ................. 20
М. Баяроўскі ............. 20
С. Будкевіч .............. 20
А. Вышадак ............... 20
Казлоўскі ................ 20
М. Сенька ................ 20
М. Швэдзюк ............... 20
Ананімна ................. 10
Н. Далінска .............. 10
С. Дзейка ................ 10
Дж. Дынглі ............... 10
М. Залога ................ 10
Х. Кажаневіч ............. 10
Карстэрс ................. 10
Л. Міхалюк ............... 10
А. Патрусаў .............. 10
А. Разанец ............... 10
В. Рыч ................... 10
З. і Л. Сазанавец ........ 10
а. Сідаровіч ............. 10
П. Шаўцоў ................ 10
А. Бразоўскі .... аўстр. дал. 50
А. Мароз ................. 50
А. і С. Ніжнік ........... 50
Е. Парэцкая .............. 50
М. Раецкі ................ 50
Р. Шэйпак ................ 50
Х. Шэйшук ................ 50
М. Мароз ................. 25
Сп-ва Міхал .............. 25
Я. Барысевіч ............. 20
А. Груша ................. 20
а. А. Грыцук ............. 20
Х. Данейка ............... 20
М. Субач ................. 20
Н. Яўневіч ............... 10
В. Русак ................. 10

**Шчыры дзякуй!**

---

**Газэта "БЕЛАРУС" бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.**

---

НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

Л. Брылеўскі ............. 50
С. Будкевіч .............. 50
К. Ворт .................. 50
Я. Сажыч ................. 50
К. Акула ................. 30
З. Грэцкі ................ 30
П. Кानановіч ............. 30
А. Ламакін ............... 30
А. Ларыёнаў .............. 30
Т. Масейчук .............. 30
Ю. Найдзюк ............... 30
Г. Пеляса ................ 30
А. Пранцэвіч ............. 30
Я. Сасноў ................ 30
С. Шчэрбацэвіч ........... 30
В. Шчэцька ............... 30

**Усім шчыры дзякуй!**

---

# Дапамога беларускай адукацыі

**Шмат ахвярадаўцаў працягваюць даваць дапамогу штомесячна да канца школьнага году.**

Да іх далучыліся наступныя асобы: Ігар Багасай, Людміла Васільева, Пётра Драбышэўскі, Уладзімер Івановіч, Ірына Рагалевіч, Павал Канановіч, Аляксандар Ламакін, Яўген Сасноў, Тацьцяна Чабанава, Ульяна Рэзьвінская, Аляксей Ларыёнаў, Сьвятлана Піражок, Ражкова, Ніка Шашкель, Андрэй Пугачоў, Ірына Зорына, Яўгеньня Сіманюк.

**Большыя аднаразавыя ахвяраваньні прыйшлі ад Веры Запруднік, Паўла Романо, Вячкі Станкевіча, Яраслава і Кацярыны Вініцкіх.**

Грамадзтва беларускай дыяспары запрашаецца далучыцца да гэтай акцыі! Усе ахвяраваньні на гэтую мэту звольненыя ад падаткаў. Чэкі можна выпісваць і дасылаць на ўстанову, якая каардынуе акцыю дапамогі: **O. R. Cultural & Educational Foundation**, адрас: **172 Mill Spring Rd, Manhasset, N.Y, 11030**

---

КАРЭКЦЫЯ

У мінулым нумары памылкова было пададзена, што Згуртаваньне Беларусаў Вялікабрытаніі ахвяравала ў Фонд Дар Сакавіка $200. Трэба было напісаць 200 ангельскіх фунтаў.

---

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
**Выдае штомесячна:**
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е**
Сусьветнае сеціва: baza-belarus.org
**Падпіска $30 на год.**
**Чэкі выпісвайце на BIELARUS**
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
**Published monthly by**
**BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.**
**Subscription $30 yearly**
**Make checks payable to BIELARUS**
**Рэдагуе калегія.**
**Адказны рэдактар Марат Клакоцкі**
**Падпіска Сяргей Трыгубовіч**
*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыялямі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*
*Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*
© BIELARUS, 2004
Адрас для допісаў і кантактаў:
**BIELARUS**
**P.O. Box 3225**
**Farmingdale, NY 11735**
E-mail:
hazetabielarus@att.net
**Сусьветнае сеціва:**
**www.bielarus.org**
**ISSN 1054-9455**
*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*